**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.43, 19.25, 12.42;
Віцебск — 6.32, 19.16, 12.44;
Магілёў — 6.32, 19.15, 12.43;
Гомель — 6.32, 19.09, 12.37;
Гродна — 7.08, 19.38, 12.38;
Брэст — 7.00, 19.40, 12.40.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 12 верасня

**ІМЯНІНЫ:**
Феафіла, Дарафея, Пятра, Домны, Яўхіма, Феакціста, Івана, Васілісы.

# ЗВЯЗДА

16 ВЕРАСНЯ 1992 г. серада, № 186 (21964)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


## РОЗГАЛАС

### УРАГАН КОШТАМ 25 МІЛЬЁНАЎ

СМАРГОНСКІ РАЁН (І. Карней). Раённы Савет народных дэпутатаў, раённы дабрачынны фонд выступілі са зваротам да працоўных калектываў прадпрыемстваў, арганізацый, калгасаў, саўгасаў, навучальных устаноў, кааператываў, прадпрымальнікаў, рэлігійных арганізацый, усіх жыхароў горада і раёна.

6 верасня на тэрыторыю раёна прыйшла вялікая, нечаканая бяда. Раз'юшаная стыхія за некалькі хвілін зруйнавала вёску Ардашы — цэнтр калгаса «Расія». Моцна пацярпелі і бліжэйшыя населеныя пункты — Біцяняты, Чатыркі, Арляняты. Вялікі ўрон нанесены грамадскай гаспадарцы: жывёлагадоўчыя памяшканні, гаражы, склады, гумны з сенам патрабуюць поўнага або частковага аднаўлення. У Ардашах разбураны клуб, бібліятэка, пацярпеў будынак магазіна — усё тое, без чаго не можа нармальна існаваць вёска.

72 індывідуальныя гаспадаркі панеслі вялікія страты, разбураны дамы і гаспадарчыя пабудовы. Рознай цяжкасці траўмы атрымалі людзі, пацярпела жывёла, страчаны кармы, папсаваны мэбля, прадметы хатняга ўжытку — усё тое, што на працягу жыцця набывалі вяскоўцы на цяжка заробленыя грошы.

Спецыяльна створанай камісіяй падлічаны страты па кожным аб'екце. Яны перавышаюць 25 мільёнаў рублёў. Дапамогу ў аднаўленні разбуранага ўраганам аказваюць зараз каля 30 арганізацый. На аб'екты пастаўляюцца неабходныя будаўнічыя матэрыялы, у тым ліку такія дэфіцытныя, як шкло, шыфер, сталярка. Нягледзячы на і без таго цяжкае становішча ў вытворчасці, ні адна арганізацыя не адмовіла ў дапамозе. І ўжо адно гэта ўсяляе пэўны аптымізм у перспектыву адраджэння пацярпеўшых вёсак.

А тым часам у вобласці і рэспубліцы вырашаюцца пытанні выдзялення фінансавых і матэрыяльных сродкаў для пакрыцця затрат. Але каб у поўнай меры дапамагчы кожнай сям'і, іх пакуль што не хапае.

Таму раённы Савет народных дэпутатаў, раённы дабрачынны фонд звяртаюцца да ўсіх кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў: справа гонару і сумлення дапамагчы суседу ў бядзе грашовымі сродкамі.

Грошы для пацярпеўшых ад стыхіі будуць прымацца ва ўсіх ашчадных касах, аддзяленнях сувязі, банках. **Разліковы рахунак у Аграпрамбанку № 700513, пры пералічэнні рабіць паметку «Стыхія».**

## Першае пасяджэнне Міжпарламенцкай асамблеі:
# раўненне на «вялікую сямёрку»

**Спецыяльны карэспандэнт «Звязды» Аляксандр КОКТЫШ перадае з Бішкека.**

Пасля поўнага і канчатковага разбурэння саюзных структур большасць рэспублік былога Саюза зразумела, што без трывалых і пастаянных узаемасувязей існаваць проста немагчыма.

Менавіта таму і адкрылася ў Бішкеку 15 верасня першае пасяджэнне Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц СНД. Не прыбылі на асамблею прадстаўнікі Украіны, Туркменістана і Таджыкістана. Дэлегацыя апошняй краіны не прыехала па вядомых прычынах. А вось прэзідэнт Украіны Л. Краўчук пазаўчора заявіў, што ён не бачыць у Садружнасці паратунку ад крызісу, які ахапіў усе рэспублікі.

Хоць Старшыня Вярхоўнага Савета Расіі Руслан Хасбулатаў, які ўзначальвае парламенцкую дэлегацыю сваёй рэспублікі на асамблеі, сказаў адразу пасля прыезду ў Бішкек, што адсутнасць Украіны і некаторых іншых рэспублік не будзе ўплываць на канчатковы вынік перагавораў у сталіцы Кыргызстана, — у гэта верыцца з цяжкасцю. Праўда, нягледзячы на часовыя страты, асамблея ўсё ж вырашыла стварыць свае пастаянныя органы — камісіі па прававых пытаннях, па эканоміцы і фінансах, па сацыяльнай палітыцы і правах чалавека, па экалогіі і пытаннях бяспекі. Плануецца таксама ўвесці новую пасаду — старшыня Савета асамблеі. Ім будзе кіраўнік парламенцкай дэлегацыі дзяржавы, на тэрыторыі якой мяркуецца праводзіць пленарныя пасяджэнні.

У задумах пакуль што і стварэнне спецыяльнага міждзяржаўнага фонду па аказанню тэрміновай дапамогі бежанцам, і распрацоўка механізма дапамогі пры ліквідацыі вынікаў стыхійных бедстваў, экалагічных катастроф і інш.

Увогуле, многія, асабліва сярэднеазіяцкія рэспублікі, пачынаюць разумець, што без пэўных агульных структур ім проста не выжыць у сённяшніх умовах. Але наколькі эфектыўнымі будуць гэтыя структуры і як ствараць агульнаправавы механізм некалькіх дзяржаў, калі недастаткова эфектыўна працуюць новыя законы ў кожнай рэспубліцы? На гэтыя пытанні цяжка знайсці адказы. Думаецца, не адкажа на іх поўнасцю і гэтае пасяджэнне Міжпарламенцкай асамблеі нават пры самым паспяховым вырашэнні ўсіх намечаных пытанняў.

Сярод іх і прыняцце ўдзельнікамі асамблеі сумеснай заявы аб сацыяльнай абароне грамадзян, у якой прапануецца стварыць умовы для свабоднага выбару і атрымання грамадзянства кожным чалавекам адпаведна нацыянальнаму заканадаўству, праводзіць узгодненую палітыку ў арганізацыі дзейнасці транспарту, банкаў, забеспячэнні дагаворных абавязацельстваў, прадастаўленні гарантый грамадзянам дзяржаў СНД на атрыманне грамадзянства пры пераездзе ў іншую краіну, узгадненні дзеяння Пенсіённых фондаў кожнай з краін па рэгуляванню і выплаце пенсій удзельнікам войнаў 1939—1945 гадоў, інвалідам, а таксама ўдзельнікам ліквідацыі чарнобыльскай трагедыі і г. д.

Асамблея пачала разгляд некаторых агульных заканадаўчых актаў, якія павінны зблізіць нацыянальныя заканадаўствы ў галіне эканомікі. У прыватнасці, гэта законы аб фінансава-крэдытных адносінах, аб адзінай мытнай службе і іншыя.

«Вялікая сямёрка» найбольш развітых у эканамічных адносінах краін свету ўжо мае нешта падобнае, да таго ж, і на гэтай асамблеі прысутнічалі 6 краін-удзельніц і адзін назіральнік. Так што справа за «малым» — быць падобным на «вялікую сямёрку» яшчэ і сутнасцю эканамічных, палітычных і сацыяльных узаемаадносін.

Ад Беларусі ўзначальвае парламенцкую дэлегацыю на асамблеі намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Васіль Шаладонаў. У сакратарыят першага пленарнага пасяджэння асамблеі быў прапанаваны старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета РБ па пытаннях экалогіі і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў Барыс Савіцкі, у рэдакцыйную камісію — намеснік старшыні Камісіі беларускага парламента па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека Анатоль Вярцінскі. Абмяркоўваецца на пасяджэнні і Часовае палажэнне па міжпарламенцкай інфармацыйна-даведачнай службе, а таксама стварэнне бюлетэня асамблеі і сваёй газеты.

На адкрыцці гэтага міждзяржаўнага форуму прэзідэнт Кыргызстана Аскар Акаеў сказаў, што інтэграцыя рэспублік як ніколі неабходная. Застаецца спадзявацца, што работа асамблеі пацвердзіць гэта.

## РАДЫЯ ФАКТЫ

На біржы працы Беларусі зарэгістравана 20 тысяч беспрацоўных. Паводле прагнозаў, іх колькасць перавысіць да канца года семсот тысяч чалавек.

У рэспубліцы паглыбляецца эканамічны крызіс, які ўзнік пасля распаду СССР. Ён звязаны з парушэннем традыцыйных гаспадарчых сувязей, што выклікала рэзкае скарачэнне аб'ёмаў вытворчасці і нават прыпыненне шэрагу заводаў і фабрык. Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі падрыхтавала ў сувязі з гэтым праграму па забеспячэнню занятасці працоўных і ўзмацненню іх сацыяльнай абароны.

***

**Эксперты вельмі стрымана ацэньваюць перспектыву ўмацавання курсу рубля. Нягледзячы на некаторае паляпшэнне сітуацыі на валютным рынку Расіі, гэты курс, на іх думку, можа павысіцца не больш чым да ўзроўню 190 рублёў за долар. На апошніх таргах на Маскоўскай біржы за долар давалі 203 рублі.**

***

Флюгер кантрабанднага вывазу тавараў з Беларусі, як кажуць, павярнуўся ў бок паўднёвых граніц. Рынкі ў Роўна, Львове, Чарнігаве і іншых гарадах Украіны вабяць спекулянтаў невысокім коштам на трыкатаж беларускай вытворчасці. Таму толькі за адзін начны рэйд на аб'язных дарогах вакол кантрольна-прапускнога пункта ў вёсцы Невель Пінскага раёна было затрымана каля 30 нагружаных таварам уласных машын. Канфіскаваны цыгарэты, цукар, гарэлка, але ў асноўным — верхні трыкатаж, пража. Агульная сума — мільён рублёў.

УРАДЖАЙ-92

## Сумная песня на бульбяны матыў

**Чаму ў Горацкім раёне марудна ідзе нарыхтоўка «другога хлеба»**

— Скажыце, тут прымаюць бульбу ў насельніцтва?

— А даведкі на радыяцыю і нітраты ў вас ёсць? — не надта ветліва кінула ў адказ прыёмшчыца і таропка працягвала выпісваць накладную, з якой яе прыспешваў вадзіцель загружанага агароднінай фургона

Ніякіх даведак, як і бульбы, вядома, у мяне не было і быць не магло. Проста мне хацелася ведаць, як у Горацкай раённай нарыхтоўчай канторы, або, як цяпер яна гучна называецца «Каапнарыхтпром», ідзе прыёмка і закуп бульбы.

— Дрэнна, — адным словам адказала загадчыца агародніннага склада Т. Карнеева.

І мне стала зразумела, чаму Таццяна Іванаўна зласлава-непрыязна адказала на маё пытанне ў пачатку нашай размовы. Многія наведвальнікі штодзённа прыходзяць і прыязджаюць сюды, цікавяцца, ці прымаюць бульбу. Але як толькі пачуюць цану, адразу робяць ад варот паварот. Вось гэта і нервуе загадчыцу.

Яшчэ больш занепакоены новы і малады дырэктар АляксандрКівуля, які ўсяго тры месяцы займае сваю пасаду, а да таго працаваў аграномам у адным з раёнаў суседняй Смаленшчыны.

— Нарыхтоўка ідзе вельмі слаба. І толькі з-за цэн. Пакуль Магілёў «думае», бульба беззваротна сплывае за межы раёна.

Нікому не навіна, што з-за працяглай спякоты, засухі ў нашай рэспубліцы сёлетні год бедны на «другі хлеб». Тым не менш, як гаварыў мне старшыня райаграпрома В. Юр'еў, у іх, Горацкім, раёне ўраджайнасць яго хоць, зразумела, і ніжэйшая за леташнюю, а ўсё ж адносна неблагая — у сярэднім выходзіць па 130 цэнтнераў клубняў з гектара. Ну, а на дзялянках вяскоўцаў і гараджан бульбачка ўрадзіла што трэба. Здавалася б, з нарыхтоўкай яе і праблем ніякіх быць не можа: толькі паспявай прымаць і выпісваць квітанцыі. Як бы не так! Замест запаркі на прыёмным пункце амаль поўнае зацішша. Не вязуць людзі сваю прадукцыю — і ўсё тут, хоць крыкам крычы.

— І колькі бульбы ўсё ж закуплена?—цікаўлюся ў Т. Карнеевай.

— Толькі адзін дзень — 7 верасня — быў больш-менш удачлівым, — адказвае яна і, як пасьянс, выкладвае на стале тры квітанцыі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### КУЛЬТУРНЫ ЦЭНТР ДЛЯ ПАЛЯКАЎ

ГРОДНА. У абласным цэнтры поўным ходам ідзе будаўніцтва Дома Саюза палякаў на Беларусі. У жыхароў Гродна, палякаў па нацыянальнасці, з цягам часу тут з'явіцца свой культурны цэнтр. А вось школы з польскай мовай навучання ў горадзе пакуль што няма. Затое ў чатырох школах з гэтага навучальнага года адкрыліся першыя польскія класы.

### ХОЦЬ І НЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ, АЛЕ ЎСЁ Ж СПАБОРНІЦТВА

Вырасціць і сабраць добры ўраджай — паўсправы. Пажадана таксама, каб дары палёў спажыўцы ўбачылі на сваім стале. Менавіта таму Магілёўскі камбінат хлебапрадуктаў дзеля матэрыяльнай зацікаўленасці вадзіцеляў цэнтравывазу і паскарэння дастаўкі збожжа з гаспадарак устанавіў спецыяльныя грашовыя прэміі: першая — 2 тысячы рублёў, другая — паўтары і трэцяя — адна тысяча. Каб атрымаць першую прэмію, неабходна перавезці на аўтамашыне КамАЗ не менш за 1.000 тон збожжа, на ЗІЛе — 700 тон.

**Барыс МІХЕЕЎ. (БелаПАН).**

### СЛОНІМ—ПАБРАЦІМ ВАВІЛОНА?

СЛОНІМ. Слонімшчына ў апошні час становіцца ўсё больш інтэрнацыянальнай. У раёне ўжо жывуць перасяленцы з Малдовы і Украіны, а зараз пераехалі на пастаяннае месца жыхарства 3 сям'і з Туркменістана. Дабаўце да гэтага дзесяткі туркаў з будаўнічай фірмы «Энка» — можна назваць Слонім пабрацімам Вавілона.

### БАРАЦЬБА ЗА КАСЦЁЛ

**МІНСК. Ужо некалькі дзён ля будынка, дзе знаходзіцца Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, працягваюць сваю акцыю пратэсту прадстаўнікі Беларускай каталіцкай грамады, якія патрабуюць, каб ім аддалі касцёл Святой Тройцы (Святога Роха). Коратка нагадаем перадгісторыю канфлікту. Раней у памяшканні храма адначасова існавалі і вернікі, і артысты. Раніцай ішла служба, а ўвечары — канцэрты. І вось Белдзяржфілармонія распачала ў касцёле рамонт, якому не відаць канца. Каталікі, напалоханыя перспектывай наогул застацца без даху, патрабуюць аддаць ім касцёл Святога Роха поўнасцю, каб выкарыстоўваць яго па прамому прызначэнню.**

### ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ:

МЯСА

Страты адператрымкі жывёлы і захоўвання звышнарматыўных запасаў мяса ў рэспубліцы штомесяц перавышаюць 420 мільёнаў рублёў. Зараз у халадзільніках усіх ведамстваў захоўваецца звыш 37 тысяч тон мяса, што на 20 тысяч тон больш нарматыўных норм і чым было ў мінулым годзе. Лішкі дэфіцытнага прадукту ўтварыліся з-за таго, што рэалізацыя мяса сёлета склала 66 працэнтаў ад ўзроўню мінулага года, мясных кансерваў— менш 60 працэнтаў.

### ДЗЯЛЬБА ПАЛЁГКІ НЕ ПРЫНЕСЛА

ТАЛАЧЫН. (Т. Махтадуй). Перастаў існаваць калгас імя Леніна, якім амаль 30 гадоў кіравала Герой Сацыялістычнай Працы Л. Навумава. У апошні час гэта буйная гаспадарка прыйшла ў заняпад. Па рашэнню калгаснікаў яна падзелена на два сельскагаспадарчыя прадпрыемствы — «Беларусь» і «Перамога». Падзелены зямля, маёмасць, жывёла і нават спецыялісты. Але пакуль што лягчэй ад гэтага не стала нікому.

### У ЧАС РЫНКУ ХВАРЭЦЬ НЯМА КАЛІ

**МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. Аблвыканком знайшоў магчымасці выдзеліць 35 тысяч інвалютных рублёў на закупку лекаў у Венгрыі і Румыніі. Наогул, у параўнанні з іншымі абласцямі Магілёўская даволі нядрэнна імі забяспечана. І звязана гэта ў першую чаргу з тым, што большая частка Магілёўшчыны ўваходзіць у так званую чарнобыльскую зону, а таму атрымлівае шмат гуманітарнай дапамогі з-за мяжы і дабрачынных рэспубліканскіх сродкаў. Трэба сказаць, што ў Магілёўскай вобласці няма ніводнага хворага або інфіцыраванага на СНІД, а ў самім Магілёве захворванне нечакана стабілізавалася. Мясцовыя спецыялісты тлумачаць гэта тым, што ў наш нялёгкі час людзям няма часу хварэць — псіхіка блакіруе арганізм.**

### МАГІЛЁЎСКІЯ МІЛЬЯРДЫ «ПЛАВАЮЦЬ» ПА СНД

МАГІЛЁЎ. У сувязі з разрывам гаспадарчых сувязей аб'ём вытворчасці ў цэлым па гораду знізіўся амаль на пятнаццаць працэнтаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. З 63 прадпрыемстваў Магілёва большая палавіна знізіла выпуск прадукцыі. У прыватнасці, завод «Электрарухавік» скараціў аб'ём вытворчасці на 64,1 працэнта, «Ліфтмаш» — на 32,4, ВА шаўковых тканін — на 16,4, камбінат будаўнічых матэрыялаў — на 30,7, аўтазавод — на 48 працэнтаў. Дарэчы, трэба ўпамянуць і аб шматлікіх даўгах расійскіх спажыўцоў магілёўскім прадпрыемствам. Так, Расія задаўжала ВА «Хімвалакно» 3 мільярды рублёў, аўтазаводу — 400 мільёнаў. Не можа знайсці свой мільярд у СНД гарбарны завод.

### АМЕРЫКАНСКІ ПРЭЗІДЭНТ ВІТАЕ СУСТРЭЧУ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

**У пачатку верасня ў горадзе Нью-Брансвіку штата Нью-Джэрсі адбылася 20-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Па традыцыі такія сустрэчы ладзяцца кожныя два гады ў тых гарадах, дзе існуюць беларускія асяродкі. Яшчэ некалькі гадоў назад беларуская палітычная эміграцыя ў Амерыцы не мела ніякіх кантактаў з Бацькаўшчынай. Сёння ж, калі наша краіна абвясціла незалежнасць, наладжваюцца нармальныя цывілізаваныя стасункі эміграцыі з Беларуссю. Замежныя суайчыннікі сталі ахвотна наведваць сваякоў, імкнуцца дапамагчы Радзіме ў цяжкі пераходны перыяд, а таксама ўплываць на ход і развіццё дэмакратычных працэсаў на Бацькаўшчыне.**

**З прывітальным словам да ўдзельнікаў 20-й сустрэчы, прадстаўнікоў Беларуска-Амерыканскага Задзіночання і Згуртавання беларусаў Канады звярнуўся прэзідэнт ЗША Джордж Буш.**

БЕЛЫ ДОМ
ВАШЫНГТОН
3 ВЕРАСЬНЯ 1992 г.

Я рады вітаць усіх, што зьехаліся ў Нью-Брансьвік на 20-ю штодвухгадовую Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Асабліва вітаю вашых гасьцей з-за мяжы.

За два гады ад часу вашае апошняе сустрэчы карта сьвету была даслоўна перарысаваная ў выніку таго, што сьвет перажывае адраджэньне свабоды й дэмакратыі. У сьнежні летась Злучаныя Штаты з пачуцьцём гонару прызналі незалежнасьць нававызваленай Беларусі ды заклалі базу для пашырэньня двубаковага і шматбаковага супрацоўніцтва. У часе, калі ваша ўвага засяроджаная на сьветлай будучыні, што чакае вашых сяброў і сваякоў у Беларусі, я ўрачыста абяцаю маё поўнае й працяглае падтрыманьне ў іхніх намаганьнях устанавіць стабільны, дэмакратычны ўрад ды арыентаваную на вольны рынак эканоміку, і я далучаю свой голас да вашых малітваў за мір у цэлым рэгіёне.

Як я сказаў Прэзыдэнту Шушкевічу, амэрыканцы падзяляюць адданасьць свабодзе і справядлівасьці, якую прадэманстраваў мужны народ Беларусі. Мы таксама разумеем тыя шматлікія цяжкасьці, што стаяць перад ім і якія трэба перамагчы, каб выйсьці з цыклю стагнацыі й заняпаду як выніку дзесяцігодзьдзяў камуністычнага панаваньня. Цешачыся дабротамі свабоды разам з дабрабытам, што стаўся вынікам прыватнага прадпрымальніцтва і вольнага рынку, мы гатовыя падтрымваць нашых беларускіх сяброў і дапамагаць ім у іхным гістарычным заданьні. Я вітаю гатовасьць Прэзыдэнта Шушкевіча супрацоўнічаць у намаганьні выканаць міжнародныя пагадненьні аб зьніжэньні ўзроўню ядзерных узбраеньняў і тэхнічнай дапамозе Беларусі.

Барбара далучаецца да маіх найлепшых пажаданьняў вам плённай і прыемнай сустрэчы.

**ДЖОРДЖ БУШ.**

ПАДПІСКА-93

## Да ўвагі чытачоў «Звязды» за межамі Беларусі

**«Паважаная рэдакцыя газеты «Звязда», звяртаемся да вас з просьбай: растлумачце, калі ласка, якая цана вашай газеты на год! Мы яе выпісваем ужо даўно, хочам падпісацца зноў, але ў «Саюздруку» нам адказалі, што на паўгода «Звязда каштуе 360 рублёў. Ці так гэта!**

**САВАНОВІЧ.**
г. Армянск, Крымская вобласць».

**«З 1947 года я жыву ў Данбасе, цяпер з'яўляюся інвалідам II групы па прафзахворванню. Увесь час выпісваў «Звязду» (дзесьці каля 40 гадоў). Чакаў яе з нецярпеннем— гэта была адзіная нітачка, якая звязвала мяне з радзімай. Я сумаваў, калі на родную Беларусь прыходзіла бяда, і радаваўся яе поспехам. «Звязду» прачытваў ад першага і да апошняга слова.**

**І вось пачалася падпіска на 1993 год. У «Звяздзе» напісана, што кошт падпіскі на 6 месяцаў 120 рублёў, а ў паштовым аддзяленні мне сказалі, што 422 рублі (украінскія купоны). Дзе ж логіка! У чым справа!**

**З павагай і прывітаннем да вас**
**ГАЛАЎКО Павел Іванавіч,**
г. Горлаўка, Данецкая вобласць».

Мы ўдзячныя аўтарам пісьмаў за іх даўнюю і шчырую дружбу з нашай газетай. Адначасова рэдакцыя за тое, каб кожны наш зямляк-падпісчык і далей атрымліваў, чытаў «Звязду» і хоць бы такім чынам быў звязаны са сваёй радзімай — Рэспублікай Беларусь.

Яшчэ раз паведамляем, што падпіска на 1993 год на нашу газету, як і на астатнія выданні ў рэспубліцы, праводзіцца не на год, а пакуль што ўсяго **на паўгода.** І кошт яе на гэты тэрмін, як і было аб'яўлена, застаецца ранейшым — 120 рублёў.

У Міністэрстве сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь растлумачылі, што ў тых краінах СНД, якія далучыліся да пагаднення па распаўсюджванню перыёдыкі, сума, указаная ў каталогах, складаецца з дзвюх частак: з рэдакцыйна-выдавецкай цаны, якая ўсюды аднолькавая, і затрат сувязі на афармленне падпіскі, экспедзіраванне, перавозку і дастаўку адрасатам. **У кожнай рэспубліцы, нават у кожным яе рэгіёне тарыфы сувязістаў могуць быць самыя розныя.**

Вось, паважаныя чытачы і падпісчыкі, у чым тут справа.

### Да 1000-годдзя Святога Праваслаўя на Беларусі

Мінск, Заслаўе, Полацк стануць галоўнымі месцамі святкавання тысячагоддзя Праваслаўнай Царквы на Беларусі, якое адбудзецца ў канцы верасня. Сёння мы змяшчаем фотаздымкі, зробленыя ў старажытных цэнтрах хрысціянства на Беларусі.

**Полацк, Спаса-Ефрасіньеўскі манастыр.**

**Мінск. Каля сцен Кафедральнага сабора.**

**Заслаўе. Вянчанне ў царкве.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# РОЗГАЛАС

## КАЛЯРОВЫЯ ГРУЗЫ

**ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. (А. Дук). Вобласць мае мяжу з Польшчай і Літвой, таму не выпадкова праз яе ўсё часцей перапраўляюць каляровыя металы «налева». Так, на КПП у Ашмянах былі затрыманы тры КамАЗы Пухавіцкага райаграпрамэнерга, на якіх спрабавалі вывезці ў Літву 50.217 кілаграмаў магнію. На КПП у Іўеўскім раёне затрымана машына МАЗ: мінскае МП «Ювіс» накіроўвала ў суседнюю Літву без ліцэнзіі 18 тон медзі. А на КПП Парэчча была спынена аўтамашына МАЗ, у паўпрычэпе якой знаходзілася 10 тон медзі.**

## УСЁ ГАРЫЦЬ

АСІПОВІЧЫ. **(І. Сцяпура).** Вялікі пажар разбудзіў многіх жыхароў вёскі Ліпень, цэнтра калгаса імя Валадарскага. Гарэў мэблевы цэх гаспадаркі, які прыносіў ёй вялікія прыбыткі. Нават пажарныя не змаглі выратаваць прадпрыемства. Цяпер застаецца падлічыць страты, а яны немалыя — мільёны рублёў.

## У РУХА СВАЕ ШЛЯХІ ВЫХАДУ З КРЫЗІСУ

МІНСК. Дэпутаты Мінгарсавета — удзельнікі Руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць разам з рэспубліканскім і мінскім гарадскім саветамі гэтага Руху правялі навукова-практычную канферэнцыю, на якой абмеркавалі шляхі выхаду рэспублікі з крызісу без далейшага зніжэння ўзроўню жыцця працоўных, сацыяльна-эканамічныя пытанні, вынесеныя на чарговую сесію Вярхоўнага Савета РБ, а таксама эканамічныя пытанні праграмы Руху, якую намечана прыняць на яго канферэнцыі ў лістападзе—снежні гэтага года.

## ТОЛЬКІ ШТО ВЫДАДЗЕНА...

Выдавецтва «Беларусь» выпусціла ў свет зборнік **«Заканадаўчыя акты аб дзяржаўнай сімволіцы Рэспублікі Беларусь».**




У зборніку змешчаны Законы Рэспублікі Беларусь, Пастановы Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, іншыя афіцыйныя дакументы, якія датычаць назвы Рэспублікі Беларусь, яе Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга, парадку іх вырабу і выкарыстання, а таксама выявы-эталоны Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга.

Зборнік выдадзены на беларускай, рускай і англійскай мовах. Тыраж выдання — 20 тысяч экземпляраў.

## АДЗІН СУПРАЦЬ ТРОХ

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. (У. Пернікаў). Трагічна закончыўся крадзёж будаўнічых матэрыялаў у вёсцы Вялікія Рагі Жлобінскага раёна. А было так. У 22 гадзіны ўчастковы інспектар малодшы лейтэнант міліцыі С. Грыбоўскі атрымаў сігнал аб тым, што ва ўзводзімы дом залезлі тры зладзеі і цягнуць адтуль усё, што трапляе пад руку. Участковы вырашыў спыніць іх злачынныя дзеянні і накіраваўся да будоўлі. Аднак трое рабаўнікоў пагрозліва пайшлі на яго ў наступ. Адзін з іх (як высветлілася пасля, ачмурэлы ад спіртнога электрык хлебазавода В. Сідараў) занёс над міліцыянерам пілу-нажоўку. Але малодшы лейтэнант аказаўся не з палахлівага дзесятка і ўступіў са злачынцам у адзінаборства. Абараняючыся, ён нанёс Сідараву такі моцны ўдар, што таго завезлі ў бальніцу, дзе ён і памёр. Двое астатніх кінуліся наўцёкі. Асобы іх зараз ўстанаўліваюцца. А дзеянні міліцыянера прызнаны правамернымі.**

# СУМНАЯ ПЕСНЯ НА БУЛЬБЯНЫ МАТЫЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Высвятляецца, што ў той «удачлівы дзянёк» спачатку было прынята два мяшэчкі — 70 кілаграмаў. А затым на машынах прывезлі з вёскі Кварцяны Марыя Кароткіна 1.181 і Феня Франчук — 1.482 кілаграмы. І рэалізавалі сельскія жанчынкі сваю бульбачку толькі таму, што не было іншага выйсця: не везці ж назад, калі і так ледзь разжыліся транспартам.

Адным словам, у падвальным сховішчы знаходзіцца ўсяго 2.733 кілаграмы. Даволі сіратліва выглядаюць гэтыя першыя дзесяткі скрынак з клубнямі, бо астатнія засекі ёмістага памяшкання пакуль што парожнія. І яны не запаўняюцца: прадаваць па 9 рублёў за кілаграм ніхто не хоча — вельмі танна. Тым больш, што на падхваце купцы больш шчодрыя.

Сапраўды, як мне гаварылі, навошта везці ў свой «райзаг», калі ганцы-ваяжоры з Украіны, суседняй Смаленшчыны прыязджаюць у вёскі і на месцы купляюць па цане ўдвая вышэйшай. А той, хто мае ўласны легкавік, імчыць у Оршу, дзе па 20 рублёў за кілаграм мяшок-другі заўсёды збудзеш — толькі давай. Многія вяскоўцы вырашылі больш клубняў пакінуць на свае патрэбы. Цэны ж на хлеб, збожжа, камбікорм вунь як падскочылі, а парсючка, іншую жыўнасць карміць нечым жа трэба.

Слухаў я ўсе гэтыя і многія іншыя тлумачэнні-апраўданні і думаў: а што рабіць гараджанам? Ім жа «другі хлеб», хоць і па драпежніцкіх цэнах, набываць трэба. І менавіта зараз, увосень, нарыхтоўшчыкі абавязаны зрабіць належныя запасы. А ў іх, як бачым, не клеіцца, важная справа ідзе праз пень-калоду. Чаму?

За адказам звярнуўся да старшыні райспажыўсаюза Г. Ткачовай.

— Спачатку мы заключылі дагавор на 860 тон, — гаворыць Галіна Васільеўна. — Потым спусцілі нам новае заданне — 9 тысяч тон. Не ведаю, хто і адкуль узяў такую лічбу. Відаць, са столі.

Магчыма, і так. Але, згодна з гэтай раскладкай-разнарадкай, 8.100 тон павінны паставіць калгасы і саўгасы, а 1.800 — трэба закупіць у насельніцтва. І калі прыватнікі ўжо нейкую сваю долю ўнеслі, то гаспадаркі не прывезлі яшчэ ніводнага клубня. Хоць, зазначым, калгасу імя Леніна трэба паставіць 600 тон, калгасу «Аўсянка» і вучгасу БСГА па 1.200, АТП «Горацкае» — 1.450. Усе гэтыя лічбы, на жаль, пакуль што на паперы. У сваю чаргу мая субяседніца даводзіла, што на нарыхтоўчыя работы затрачана шмат часу і сродкаў: гатовы да работы накапляльныя бункеры, іншае абсталяванне; можна адпраўляць бульбу і па чыгунцы (летась адгрузілі 840 тон). Што, маўляў, райаграпром па-ранейшаму застаецца ўбаку. Адным словам, старая песня.

Варта зазначыць, невясёлая, проста сумная. І перш-наперш таму, што нарыхтоўшчыкі прывыклі працаваць па камандзе зверху, а таксама чакаць, што прывязуць ім тую ж бульбачку гатовую, прытым па самай мізэрнай цане. Замест таго каб разгарнуць сапраўдную дзейнасць, накіраваць сваіх прадстаўнікоў і транспарт непасрэдна ў вёскі, бездапаможна чакалі, калі з абласнога цэнтра спусцяць новыя закупачныя цэны.

А дзе ж самастойнасць, прадпрымальнасць і паваротлівасць?

**Іван БРАЛКА,**
**спец. кар. «Звязды».**

Горацкі раён.

**Ад аўтара:** Калі гэты матэрыял быў падрыхтаваны да друку, звязаўся па тэлефоне з Горкамі. Вось што паведаміў мне дырэктар А. Ківуля: цяпер цана на бульбу 12 рублёў за кілаграм. Закуплена 10 тон (а трэба 9 тысяч). Ахвоты везці на прыёмны пункт клубні ў людзей не прыбавілася. Што і казаць, сумна.

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

◆ Лідэры Абхазіі заклікалі прэзідэнта Расіі Ельцына і старшыню парламента Хасбулатава не дапусціць правядзення нечарговай сесіі парламента Абхазіі. Паводле слоў абхазскіх лідэраў, грузінскія дэпутаты паспрабуюць скарыстаць гэту сесію, каб распусціць парламент Абхазіі.

◆ **Вярхоўны суд Літвы прыйшоў да заключэння, што былы прэм'ер-міністр краіны Казімера Прунскене супрацоўнічала з КДБ. Цяпер парламенту Літвы патрэбна вырашаць пытанне аб пазбаўленні Прунскене дэпутацкага мандата. Прунскене настойліва аспрэчвала абвінавачванне ў супрацоўніцтве з КДБ, абвінавачваючы сваіх праціўнікаў у спробе звядзення палітычных рахункаў.**

◆ Назначаная прэзідэнтам ЗША Бушам і кангрэсам камісія рэкамендавала стварыць службу радыёвяшчання на Кітай і іншыя рэгіёны Азіі. Камісія заяўляе, што радыёперадачы могуць аказаць вялікі ўплыў на развіццё падзей у Азіі, падобна таму, як зрабілі ўплыў на развіццё дэмакратыі ва Усходняй Еўропе і былым СССР.

◆ **У архівах КДБ знойдзены дакументы, якія сведчаць аб тым, што стрыечная сястра Гітлера памерла ў савецкай турме ў 1953 годзе. Гаспадыня невялікай фермы Марыя Капельштайнер была арыштавана пасля заканчэння вайны савецкай сакрэтнай службай разам са сваім мужам і двума братамі. Яна ўтрымлівалася ў Аганскай турме да самай смерці.**

## ТАЙМ-АЎТ

### У СНД ТАКОГА ЯШЧЭ НЕ БЫЛО

Сюрпрызам для аматараў спорту стала нядаўна перадача беларускага тэлебачання «Асілак», якая адзначала сціплы пяцігадовы юбілей. Дакладней не перадача, а яе ўдзельнікі — вядомыя гіравікі Вячаслаў Харанека і Віктар Калмук. На вачах у тысяч тэлегледачоў і кампетэнтнага журы кожны з іх за хвіліну штурхнуў дзве двухпудовыя гіры 36 разоў. У СНД — гэта рэкордны вынік.

### ТЭНІС

Наталля Зверава з Мінска ў пары з Д. Фернандэс (ЗША) стала пераможцай адкрытага чэмпіяната ЗША. У фінале спартсменкі абыгралі Я. Новатну (Чэхаславакія) і Л. Саўчанка-Нейланд (Латвія) з лікам 7:6, 7:4, 6:1.

### БАСКЕТБОЛ

Беларускія баскетбалісты прынялі ўдзел у міжнародным турніры ў Стамбуле. Турэцкаму клубу «Эфес» яны ўступілі з лікам 87:91 і абыгралі фінскую каманду (73:65). Гэты турнір быў для РТІ чарговым этапам падрыхтоўкі да еўракубка, дзе яны павінны неўзабаве сустрэцца ў першым матчы з грэчаскім «Арысам».

## interfax ИНТЕРФАКС

### ШЭВАРДНАДЗЕ: ЗРЫУ ПАРЛАМЕНЦКІХ ВЫБАРАУ У ГРУЗІІ ПРЫВЯДЗЕ ДА ХАОСУ І АНАРХІІ

Старшыня Дзяржсавета Грузіі Эдуард Шэварднадзе заявіў, што, калі назначаныя на 11 кастрычніка ў Грузіі парламенцкія выбары будуць сарваны, у рэспубліцы «ці запануе поўны хаос і анархія, ці будзе адноўлена ваенная дыктатура». Выступаючы ў панядзелак у Тбілісі на нарадзе праваахоўных органаў, прысвечанай забеспячэнню парадку на маючых адбыцца выбарах, Э. Шэварднадзе адзначыў, што Грузія не зможа ўпэўнена ўвайсці ў сусветнае супольніцтва, калі ў краіне не будзе законнай улады, законнага ўрада. Кіраўнік Дзяржсавета зноў заклікаў апанентаў на роўных прыняць удзел у выбарах.

### У БАІ ЛЯ ГАГРЫ ЗАГІНУУ ГРУЗІНСКІ ГВАРДЗЕЕЦ

**Паводле паведамлення з камендатуры Гагры, раніцай у панядзелак добраахвотнікі Канфедэрацыі горскіх народаў ажыццявілі наступленне на пазіцыі грузінскай арміі каля гэтага горада-курорта. У баі загінуў 1 і паранены 10 грузінскіх гвардзейцаў, страты процілеглага боку невядомыя.**

**Як адзначылі ў камендатуры, дзеянні «наёмнікаў» Канфедэрацыі, што парушаюць маскоўскія дагаворанасці па Абхазіі, могуць прывесці да выхаду грузінскіх гвардзейцаў з-пад кантролю камандавання, і, у сваю чаргу, да эскалацыі ваенных дзеянняў.**

# Яўген Аляксеевіч ЗАЙЦАЎ

Беларускае выяўленчае мастацтва панесла вялікую страту. 13 верасня на 84-м годзе жыцця памёр выдатны майстра сучаснага жывапісу, народны мастак Рэспублікі Беларусь, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Зайцаў Яўген Аляксеевіч.

Я. А. Зайцаў нарадзіўся 3 студзеня 1908 г. у г. Невелі, прафесіянальную адукацыю атрымаў у Віцебскім мастацкім тэхнікуме і Ленінградскім інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры.

З першых крокаў самастойнага жыцця ў творчасці Я. А. Зайцаў прысвяціў сябе гістарычнаму жанру і прытрымліваўся яго на працягу ўсяго творчага шляху.

Першыя палотны мастака: «Чапаеў», «Пахаванне героя», «Абарона Брэсцкай крэпасці», «Выйсце з блакады», «Мая рэспубліка ў агні Айчыннай», шэраг партрэтаў і краявідаў сведчаць аб высокім прафесіянальным майстэрстве мастака, вылучаюць жывапісца як майстра не толькі кампазіцыйнай пабудовы станковай тэматычнай карціны, але і арыгінальнага каларыту. Лепшыя яго творы занялі пачэснае месца ў музейным фондзе Беларусі, грунтоўна адлюстроўваюць час, на працягу якога фарміраваліся мастак і яго творчасць.

Я. А. Зайцаў прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, неаднаразова выбіраўся ў састаў праўлення Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь, быў яго старшынёй, узначальваў секцыю жывапісу, прымаў удзел у рабоце многіх мастацка-экспертных фарміраванняў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

За дасягненні ў прафесіянальным выяўленчым мастацтве ён быў выбраны членам-карэспандэнтам Акадэміі мастацтваў Саюза ССР, узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў, «Знак Пашаны», медалямі. Нягледзячы на свой цяжкі фізічны стан у апошнія гады, Я. А. Зайцаў не толькі працягваў працаваць над стварэннем сваіх новых палотнаў, але прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы канцэпцыі развіцця выяўленчага мастацтва Рэспублікі Беларусь у сучасных умовах.

Творчая адданасць Я. А. Зайцава мастацтву, змаганне за яго ідэалы — прыклад служэння нацыянальнай культуры, які будзе жыць вечна ў памяці і сэрцах нашых суайчыннікаў.

**С. С. Шушкевіч, В. Ф. Кебіч, М. І. Дзямчук, Н. С. Гілевіч, Я. К. Вайтовіч, А. І. Бутэвіч, П. К. Краўчанка, А. М. Герасіменка, Г. В. Буралкін, В. А. Нікіфараў, І. Г. Чыгрынаў, Я. М. Кавалеўскі, А. А. Дудараў, М. М. Яроменка, М. У. Кірэеў, М. А. Савіцкі, З. І. Азгур, Л. Д. Шчамялёў, В. А. Грамыка, Г. Х. Вашчанка, А. М. Кішчанка, Я. Р. Чэмадураў, М. В. Данцыг, В. П. Шаранговіч.**

# Каманда маладосці нашай...

Вось і прайшоў той вечар, якога з такім нецярпеннем чакалі беларускія футбольныя балельшчыкі — ці не ў апошні раз мы ўбачылі ў баявым страі тую «залатую» дружыну мінскага «Дынама» ўзору 1982 года, ад гульні якой прыходзіла ў захапленне «шостая частка планеты» — ад Брэста да Курылаў. Праўда, на гэты раз яна сустракалася не са сваімі даўнімі сапернікамі — кіеўскімі дынамаўцамі ці маскоўскім «Спартаком». «Дынама-82» экзаменавала Нацыянальную зборную Беларусі — сустрэліся легенда і будучыня беларускага футбола.

Але аб усім па парадку. Спачатку адбылося ўшанаванне ветэранаў дынамаўскай каманды — ігракоў, якія ў 1954 і 1963 гадах заваявалі бронзавыя ўзнагароды чэмпіяната Саюза. Старэйшае пакаленне добра памятае тыя часы, калі білеты на матчы разбіраліся за некалькі дзён да пачатку гульні. Хоміч, Арцёмаў, Мустыгін, Зарэмба, Пагальнікаў, Арзамасцаў — адны імёны што значаць... Затым адбылося ўручэнне залатых медалёў ігракам каманды «Дынама» Мінск — першаму чэмпіёну нацыянальнага першынства Беларусі ў 1992 годзе.

А ў 19 гадзін пачалася гульня. І, як дзесяць гадоў назад, над стадыёнам гучала: нумар адзін — Юрый Курбыка, нумар два — Сяргей Бароўскі, нумар тры — Юрый Курненін... Юрый Трухан, Андрэй Зыгмантовіч, Сяргей Гоцманаў, Юрый Пудышаў, Віктар Шышкін, Пётр Васілеўскі, Валерый Мельнікаў, Людас Румбуціс, Георгій Кандрацьеў, Ігар Гурыновіч, Яны прыехалі з многіх гарадоў Беларусі, з далёкага Якуцка і Екацярынбурга, нават з Германіі і Галандыі. У стартавым саставе адсутнічалі ігракі пад нумарамі «чатыры» і «шэсць». З гэтымі лічбамі на майках выходзілі на поле Віктар Янушэўскі і Аляксандр Пракапенка. Іх ужо няма сярод нас — сэрцу не загадаеш...

А з «капітанскага мосціка» гульнёй ветэранаў (ніяк не хочацца верыць, што яны — ветэраны) кіраваў любімец беларускіх балельшчыкаў Эдуард Васільевіч Малафееў. Яго былы выхаванец і адзін з асноўных ігракоў той «залатой» каманды Міхаіл Вяргеенка ў прыгожым і элегантным касцюме галоўнага трэнера Нацыянальнай зборнай на гэты раз быў яго сапернікам. У белачырвоных майках на поле выйшлі ігракі са сталічнага і брэсцкага «Дынама», мінскай «Беларусі», гродзенскага «Хіміка», віцебскага «КІМа», «Гомсельмаша», бабруйскага «Трактара», маладзечанскага «Металурга», ніжнегародскага «Лакаматыва».

Каманды стараліся: вострадзейнічалі наперадзе ў «Дынама-82» Кандрацьеў і Гурыновіч, тонка і мудра пасаваў Пудышаў, «падчышчаў» памылкі партнёраў Бароўскі — склалася ўражанне, што маладыя ігракі зборнай зусім не шкадавалі ветэранаў. Першы тайм — нічыя — 0:0. Лік быў адкрыты неўзабаве пасля перапынку — Сяргей Бараноўскі першым пасам на дабіванне мяча, які адскочыў ад рук Юрыя Курбыкі. Зборная выйшла наперад. Але доўга іх перавага не пратрымалася. Праз некалькі хвілін у процілеглыя вароты быў назначаны 11-метровы ўдар. Андрэй Зыгмантовіч выйграў гэтую дуэль з варатарам Валерыем Шанталосавым, якога, на шчасце, за некалькі дзён да гэтага паспелі перахапіць на самым парозе расійскай зборнай. Гэты лік — 1:1 — і пратрымаўся да канца матча.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

# БАГАТЫЯ ТАКСАМА ПЛАЧУЦЬ

**(Працяг. Пачатак у № 185).**

### ДОН АЛЬБЕРТА

Дон Альберта Сальвацьера — чалавек вельмі багаты. Ён уладальнік буйной будаўнічай кампаніі.

Сям'я ў дона Альберта невялікая, усяго тры чалавекі: ён, жонка і трыццацігадовы сын Луіс Альберта. Яны жывуць у прыгожым двухпавярховым асабняку.

Багацце не сапсавала характар дона Альберта. Гэты сумленны і прыстойны чалавек зарабіў яго сваёй працай. І цяпер, нягледзячы на свой узрост, ён працягвае працаваць.

У адносінах да жанчын ён заўсёды быў сапраўдным кабальера: схіляўся перад іх прыгажосцю, але ніколі не здраджваў донне Алене.

З нараджэннем сына ён звязваў вялікія надзеі, але занятасць справамі фірмы прымусіла дона Альберта перадаручыць яго выхаванне жонцы. Донна Алена душы не чула ў хлопчыку. Ні ў чым яму не адмаўляла і ў выніку вельмі распесціла.

Прымаючы рашэнне ўзяць да сябе ў дом Марыяну, дон Альберта разумеў, што гэта выклікае пэўныя цяжкасці і рознагалоссі ў сям'і. Але чысціня душы і несапсаванасць дзяўчыны пакарылі яго. Дапамагаць ёй ён лічыў сваім абавязкам.

### ДОННА АЛЕНА

Жонка дона Альберта донна Алена ў маладосці была вельмі прыгожай. Сляды гэтай прыгажосці яна захавала дагэтуль. Выйшаўшы замуж па каханню, яна не страціла свае пачуцці да мужа за трыццаць адзін год сумеснага жыцця.

Нараджэнне сына стала для донны Алены важкім дапаўненнем да сямейнага шчасця. Яна кінула ўсе свецкія забавы і прысвяціла жыццё яго выхаванню. Любая маці песціць сваё дзіця. Багатая маці не ведае ў гэтым меры. Хлопчык рос, не чуючы ад маці слова «не», што не лепшым чынам адбілася на яго характары.

Да з'яўлення ў доме чужой дзяўчыны донна Алена ставілася адмоўна. Яна ўгаворвала мужа змяніць рашэнне, але дон Альберта застаўся непахісны.

### ЛУІС АЛЬБЕРТА

Луіс Альберта атрымаў выдатную адукацыю і праяўляў пэўныя здольнасці ў галіне літаратуры. Аднак выкарыстаць іх не спяшаўся. Навошта абцяжарваць сябе якой-небудзь работай, калі можна весела бавіць час, карыстаючыся грашыма бацькоў? Ён любіў добрую кампанію, дзе можна было выпіць, пагуляць у карты, пазаляцацца да прыгожых жанчын.

І ўсё ж у асабістым жыцці яму не шанцавала: жанчына, якую ён кахаў і з якой збіраўся ажаніцца, аддала сваё сэрца іншаму. Гэта нанесла яму цяжкую душэўную траўму, і Луіс Альберта яшчэ больш прыахвоціўся да алкаголю. Працаваць у фірме бацькі яму было нецікава, і ён пад любой прычынай адмаўляўся дапамагаць дону Альберта.

Паводзіны Луіса Альберта выклікалі ў галавы сямейства адкрытую непрыязнасць. Адносіны бацькі і сына ў сям'і Сальвацьера вымушалі жадаць лепшага.

Марыяну Луіс Альберта спачатку ўспрыняў як служанку. Яе дзікаватасць і вясковыя манеры раздражнялі яго. Ён не ўпускаў выпадку пасмяяцца з дзяўчыны.

### ЭСТЭР

Частая госця ў доме дона Альберта — пляменніца яго жонкі Эстэр. Яна маладая і прыгожая. Але яе эгаізм і цяга да грошай не ведаюць граніц.

У яе ёсць уласны дом, дзе яна жыве разам са сваёй карміліцай Рамонай. Эстэр мае невялікія грошы, што засталіся ад бацькі, але яе жаданні перасягаюць яе магчымасці.

Таму яна паставіла сабе мэту: выйсці замуж за Луіса Альберта і атрымаць доступ да багацця сям'і Сальвацьера. Дамагаючыся гэтага, яна не грэбуе ніякімі сродкамі.

Рашэнне дона Альберта пасяліць у сябе ў доме Марыяну Эстэр прымае ў штыкі. Яна інтуітыўна адчувае ў ёй сваю саперніцу.

### МАРЫЯНА

Марыяне вельмі няўтульна ў вялікім доме. Яна з задавальненнем пакінула б яго, калі б не добрыя адносіны да яе дона Альберта.

Дон Альберта — яе адзіны абаронца ад пастаянных нападак з боку Эстэр і донны Алены. Усе свае нерастрачаныя бацькоўскія пачуцці пераносіць ён на Марыяну і аб'яўляе ўсім у доме, што Марыяна не служанка, а паўнапраўны член сям'і.

На першым часе дзяўчына пакутуе ад адзіноты. Толькі размовы з Марыяй — эканомкай дона Альберта — аблягчаюць яе жыццё.

Халоднасць донны Алены і грубасць Эстэр траўміруюць душу Марыяны, але яна не паказвае, што гэта кранае яе.

### ЛУІС АЛЬБЕРТА

Паступова Луіс Альберта пачынае мяняць свае адносіны да Марыяны.

Ён бачыць, наколькі яна не падобная на тых жанчын, з якімі яму даводзілася мець справу. Поўная адсутнасць какецтва, прастата і непасрэднасць спалучаюцца ў гэтай дзяўчыне з гордасцю і прыгажосцю.

Канешне, яна далёка не свецкая львіца, не валодае добрымі манерамі і амаль неадукаваная, але затое не ўмее хлусіць і крывадушнічаць. Добрыя манеры і адукацыя — справа нажыўная, а дабрыня сэрца і веліч душы сустракаюцца ў гэтым свеце вельмі рэдка.

Марыяна ўсё больш і больш прыцягвае да сябе ўвагу Луіса Альберта.

### ДОННА АЛЕНА

Першай перамену ў адносінах Луіса Альберта да Марыяны заўважыла донна Алена. Гэта не больш, чым чарговае захапленне сына, думае яна, але на ўсялякі выпадак вырашае, што Марыяна павінна пакінуць іх дом.

Донна Алена лічыць Эстэр ідэальнай парай для Луіса Альберта і марыць пра той дзень, калі яны пажэняцца. Каб паскорыць гэтую падзею, яна запрашае Эстэр разам з Рамонай пагасцяваць у іх сям'і. Жаданні цёткі і пляменніцы супадаюць. Яны аб'ядноўваюць намаганні, каб выжыць Марыяну.

Аднак іх імкненні рашуча спыняе дон Альберта. Ён моцна прывязаны да дзяўчыны, лічыць яе сваёй дачкой і не хоча расставацца з ёю.

Донне Алене і Эстэр даводзіцца мірыцца з прысутнасцю Марыяны.

### РАМОНА

Карміліца Эстэр Рамона на самай справе яе родная маці. Яна была служанкай у доме брата донні Алены, жонка якога не магла мець дзяцей.

Бацьку Эстэр вельмі хацелася мець дзіця, і, з дазволу жонкі, ён дзеля гэтага пайшоў на сувязь са служанкай. Рамона нарадзіла дзяўчынку, якую выдалі за дачку гаспадара і гаспадыні дома.

Неўзабаве пасля нараджэння Эстэр жонка яе бацькі памерла. Рамона засталася ў доме ў якасці карміліцы і ўтойвала сваё мацярынства ад усіх і ад Эстэр у тым ліку. Пасля смерці бацькі Эстэр атрымала невялікую спадчыну, на якую і жыла са сваёй карміліцай.

Рамона ад усёй душы жадала шчасця дачцэ, але не адабрала яе метады дасягнення мэты. Пры дапамозе акультызму і чорнай магіі Рамона спрабуе дапамагчы Эстэр прычараваць Луіса Альберта. Аднак цёмныя сілы не хочуць прымаць удзелу ў такой далікатнай справе.

Зняверыўшыся ў магчымасцях сваёй карміліцы, Эстэр вырашае дзейнічаць сама.

### МАРЫЯНА

Луіс Альберта імкнецца як мага больш часу праводзіць з Марыянай. Пад выглядам таго, што ён збіраецца напісаць раман пра яе жыццё, часта і доўга размаўляе з дзяўчынай.

Марыяне падабаюцца гэтыя размовы. Акрамя таго, яна заўважае, што Луіс Альберта мяняецца ў адносінах да яе. Замест грубых і пошлых жартаў у яе адрас—давернасць і павага. Нават нейкая неўласцівая гэтаму самаўпэўненаму чалавеку нясмеласць бачыцца ў яго позірку, голасе.

Простая і наіўная Марыяна за знешняй разбэшчанасцю і бравадай Луіса Альберта здолела ўбачыць у ім прыстойнасць, палкае сэрца і ранімую душу. Дзяўчына не адразу разумее, што з ёю здарылася, яна ўсё больш і больш думае пра маладога гаспадара.

Праз некаторы час Луіс Альберта прызнаецца ў сваім каханні Марыяне, і яна адказвае яму ўзаемнасцю.

Пра свае пачуцці Марыяна расказвае Марыі. Марыя засцерагае дзяўчыну ад залішняй даверлівасці. Луіс Альберта чалавек непастаянны і можа пасмяяцца з яе.

Але Марыяна захоплена пачуццём першага кахання.

### ДЗІЕГА

Прыехаўшы ў Мехіка, Дзіега Авіла адразу ж накіроўваецца ў дом Луіса дэ ля Пара, каб даведацца, ці ведае Марыяна аб завяшчанні яе бацькі. Там ён высвятляе, што сеньёр дэ ля Пара памёр неўзабаве пасля вяртання дамоў. Дзяўчына прыходзіла, але не застала яго ў жывых.

Гэта карэнным чынам мяняе планы Дзіега. Навошта рызыкаваць, забіваючы Марыяну, калі можна адшукаць яе, сыграць на дабрыні і даверлівасці дзяўчыны і ажаніцца з ёю. Дзіега пачынае пошукі.

**(Працяг будзе).**

## Рахеліо ГЕРА: «Я зусім не багаты, але і не зусім бедны»

**(Заканчэнне. Пачатак у № 185).**

**— 248 серый за адзінаццаць месяцаў?**

— Гэта звычайны рытм у рабоце над тэленавеламі. Як правіла, мы здымалі па 2—3 серыі ў дзень. У першапачатковым варыянце было каля 140 серый, па паўгадзіны кожная. Ніякай кнігі пад такой назвай не было. За аснову ўзялі старую радыёп'есу, напісаную кубінкай Інес Радэнай. На Кубе яе трансліравалі яшчэ ў часы Батысты. У нас перарабілі гэтую радыёпастаноўку для тэлебачання, пакінуўшы ранейшую назву.

К канцу паказу ў тэлекампаніі зразумелі, што Мексіка «прыліпла» да экранаў і «адліпаць» не жадае. А часу, каб як след дапісаць сцэнарый, ужо не было. Тады тэрмінова знайшлі іншы, які ўжо быў гатовы і больш-менш падыходзячы сюжэт, куды «змясціліся» б асноўныя героі, і пачалі здымаць далей. Таму ў другой частцы знікаюць многія ранейшыя персанажы.

**— А чаму раптам змяніліся акцёры ў сярэдзіне першай часткі?**

— О, гэта свая гісторыя. Справа ў тым, што незадоўга да пачатку здымак раскалолася наша Нацыянальная асацыяцыя акцёраў (НАА), з якой выдзеліўся Прафсаюз незалежных акцёраў (ПНА). Да яго належала большасць тых, хто здымаўся ў «Багатых», а я быў нават адным з актывістаў гэтага прафсаюза. Пры чарговым пераглядзе калектыўнага кантракта члены НАА патрабавалі для сябе эксклюзіўнага права працаваць у кампаніі «Тэлевіса». Дабіваючыся гэтага, іх прафсаюз заклікаў сваіх да забастоўкі. Таму члены НАА пакінулі нашу здымачную групу ў сярэдзіне першай часткі.

Работу гэта не спыніла, хоць і збянтэжыла астатніх. За суткі ў нас змяніліся партнёры, а ў нашых герояў — сваякі і знаёмыя.

**— Што вы думаеце пра вашага героя — Луіса Альберта?**

— Яго нельга ахарактарызаваць адназначна. Луіс Альберта — сімпатычны, занудлівы, сардэчны, самазадаволены, высакародны, бесклапотны. Дрэнны і добры адначасова. Яго душэўны стан і лінія паводзін пастаянна мяняюцца. Іграць гэтую ролю было і цяжка, і цікава. Што датычыцца асабістых адносін, дык у глыбіні душы Луіс Альберта мне сімпатычны.

**— Вы самі — чалавек багаты?**

— Не. Але я б не аднёс сябе і да ліку бедных. У мяне ёсць дом, ёсць маленькі аўтамабіль. Напэўна, я належу да так званага «сярэдняга класа», а можа быць, да яго і не дацягваю.

**— У жыцці вам даводзілася плакаць?**

— Аднойчы, наколькі памятаю. І якраз у Пуэрта-Рыка. Я тады захварэў, нешта здарылася з пазваночнікам. З тэатра мяне прывезлі ў кватэру, боль быў страшэнны. Я застаўся адзін, не мог нават дацягнуцца да тэлефона. Слёзы пацяклі самі, нічога не мог з сабой зрабіць.

**— Якія ў вас адносіны з Веронікай Кастра?**

— У час здымак мы пасябравалі і вельмі дапамагалі адзін аднаму. Потым неяк ігралі разам у тэатры, а пасля гэтага, калі і сустракаліся, дык разы два-тры, выпадкова.

